Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VIII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 3 (125) | 25 сакавіка 1932 г. | № 3 (125)



## ЗЬМЕСТ.





---

## Пастановы Аб'яднанага Пасяджэньня Прэзыдыуму ЦКК і Калегіі НК РСІ БССР.

### 9. Аб выніках праведзенай масавай праверкі па наркаматах і цэнтральных установах БССР выкананьня пастановы Калегіі НК РСІ БССР за 24|III-1931 г. аб палепшаньні кіраўніцтва раёнамі.

1. Прызнаць, што побач з некаторымі палепшаньнямі, маючыміся ў справе кіраўніцтва раёнамі ў параўнаньні з мінулым, як поўная перадача аперацыйных правоў, практыкаваньне куставых нарад, выданьне бюлятэняў і г. д.—усё-ж па асноўных момантах канкрэтнага арганізацыйнага кіраўніцтва раёнамі з боку цэнтральных установ становішча застаецца нездавальняючым.

Канстатаваць, што як дырэктывы Кастрычніцкага Пленуму ЦК КП(б)Б, 2-й сэсіі ЦВК БССР, а таксама і канкрэтныя паказаньні Калегіі НК РСІ за 24/III-1931 г. аб наладжваньні кіраўніцтва раёнамі—засталіся ў асноўным, у большасьці наркаматаў і цэнтральных устаног,—нявыкананымі.

2. Пастанову Нарады па кіраўніцтву раёнамі, якая была склікана 20|XII пры ЦВК БССР і ЦКК—НК РСІ БССР,—зацьвердзіць.

Абавязаць кіраўнікоў усіх наркаматаў і цэнтральных устаноў ў 2-хдэкадны тэрмін выканаць усе пастановы Нарады, распрацаваўшы у той-жа тэрмін усе арганізацыйныя мерапрыемствы, выцякаючыя з гэтай пастановы.

3. Даручыць парт'ячэйкам і кіраўнікам сэктароў кантролю завыкананьнем цэнтральных устаноў і наркаматаў арганізаваць сталы нагляд за выкананьнем паказаных вышэй прапаноў (п. 2).

4. Пытаньне адносна прыцягненьня да адказнасьці асоб, вінаватых у паасобных фактах скажэньня дырэктыў партыі па кіраўніцтву раёнамі, выяўленых у час апошняй праверкі па некаторых цэнтральных установах—паставіць на чарговым пасяджэньні прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б.

Старшыня ЦКК КП(б)Б—Нарком РСІ БССР Калнін.

3 студзеня 1932 г.
№ 621.

**Дадатак.**

Зацьверджана Прэзыдыумам
ЦКК КП(б)Б 3 студзеня 1932 г.

## Пастанова Усебеларускай Нарады па пытаньні аб становішчы кіраўніцтва раёнамі з боку цэнтральных устаноў.

1. На падставе матарыялаў зробленай па цэнтральных установах праверкі і даных, атрыманых ад раёнаў, Нарада канстатуе, што побач з некаторымі палепшаньнямі, маючыміся ў параўнаньні з мінулым, як: поўная перадача аперацыйных правоў, абмен вопытам і г. д., —агульнае становішча кіраўніцтва раёнамі з боку цэнтр. устаноў застаецца нездавальняючым. Дырэктывы партыі і ураду „Аб павароце цэнтральных устаноў тварам да раёну“, „Аб арганізацыі сыстэматычнай дапамогі раёнам у іх рабоце і ўстанаўленьні сапраўднай, а не бюрократычнай сувязі“ (з пастановы Кастрычніцкага пленуму ЦК КП(б)Б) аб тым, што „кіраваньне раёнамі павінна быць дыфэрэнцыравана ў дапасаваньні да пэўных груп эканамічна-падобных раёнаў“ (з пастановы 2-й сэсіі ЦВК БССР), усе гэтыя важнейшыя і яскравейшыя дырэктывы вышэйшых органаў па большасьці цэнтральных устаноў засталіся яшчэ дагэтуль нявыкананымі.

Таксама да гэтага часу ў большай сваёй частцы не праведзены ў жыцьцё паказаньні, вынесеныя Калегіяй НКРСІ БССР за 24|III-1931 г.

па матарыялах зробленай праверкі, якія давалі зусім канкрэтны напрамак і шэраг канкрэтных прапаноў да карэннага палепшаньня сыстэмы кіраваньня раёнамі (гл. газ. „Сав. Беларусь" за 3|IV-1931 г.).

2. Такія недапушчальныя зьявішчы простага ігнараваньня з боку многіх цэнтральных устаноў важнейшых партыйна-савецкіх дырэктыў, ва ўмовах усё узьнімаючайся ролі раённага зьвяна, як рашаючага вучастку па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі,—Нарада расцэньвае, як праяўленьне права-апартуністычнай недаацэнкі ролі раённага апарату, недаацэнкі і ігнараваньня мерапрыемстваў партыі і ўраду, вядучых да палепшаньня нізавога апарату.

3. Асноўнымі і найбольш характэрнымі для большасьці цэнтральных устаноў хваравітымі момантамі ў сыстэме кіраўніцтва раёнамі зьяўляюцца наступныя:

а) адсутнасьць дыфэрэнцыраванага кіраўніцтва раёнамі ў залежнасьці ад іх эканамічных асаблівасьцяй (невыкананьне дагэтуль Дзяржплянам пастановы Ураду аб выданьні эканамічнага даведчыка аб раёнах; непрымацаваньне інструктароў да пэўнага ліку раёнаў па Калгасцэнтру, Галоўдартрансу, НКПрацы, Кіраўніцтву Ашчадкасамі; факты ўстанаўленьня НКЗемам агульных тэрмінаў па с.-г. работам для ўсіх раёнаў БССР; факт пасылкі НКСнабам абежнікаў па адрасу ліквідаванага Высачанскага раёну і г. д.);

б) недастатковасьць і неплянавасьць сапраўднай жывой сувязі па інструктажу і дапамозе раёнам (поўная адсутнасьць комплексных абсьледваньняў, моманты гастралёрства; факт выезду па лініі НКЮ у кастрычніку г. г. у Асіпавіцкі і Гомельскі раёны па 5 прадстаўнікоў, у той час як ня было ніводнага выезду за ўвесь год у Лельчыцкі, Любаньскі, Старобінскі раёны; факт пасылкі Белплодагароднінай па аднэй справе ў адзін раён па 4—5 чал.; факт прабываньня прадстаўніка НКСнабу ў Глускім Райснабе толькі 2 гадзіны і г. д.);

в) бясплянавасьць, непадрыхтаванасьць і няўважлівасьць да выклікаў з раёнаў працаўнікоў як у Менск, так і на куставыя нарады (факт непадрыхтоўкі Белкапсаюзам міжраённай нарады ў Віцебску, факт выкліку НКСнабам Бабруйскага Райснаба без паказаньня, па якой справе; факт непадрыхтаванасьці НКАсьветы да Усебеларускай нарады па дашкольнаму выхаваньню, дзякуючы чаму дэлегаты чакалі ў Менску адчыненьня нарады 8 дзён і г. д.).

г) бяссыстэмнасьць, безадказнасьць і блытаніна ў частцы пісьмовай сувязі; злоўжываньні тэлеграфам; шматразовая зьмена кантрольных лічбаў і іншых заданьняў; разыходжаньне ў лічбах, што даюцца рознымі ўстановамі; неяскравасьць інструкцый; значнае спазьненьне з пасылкай шэрагу важнейшых дырэктыў (факт пасылкі НКСнабам 7|XI урачыстай тэлеграмы аб выкананьні пляну скурзагатовак за 6-цю подпісамі, факт спуску НКАсьветы дырэктывы ЦК УсеКП(б) аб сярэдняй школе за 15|IX толькі 25|X, факт пасылкі НКЗемам інструкцыі па земляўпарадкаваньні ў жніўні замест красавіка, факт пасылкі Калгасцэнтрам інструкцыі па уборцы бульбы 16|X, пасылка НКЗемам форм справаздачы па вясеньняй пасеўнай кампаніі 24|VI з патрабаваньнем прадставіць справаздачу да 25|VI, факт дачы адказу НКЮ

на запытаньне Койданаўскага пракурора па справе шкоднікаў за 20/VII—толькі 14|X і г. д.).

4. Як адзін з важнейшых недахопаў у рабоце цэнтральных устаноў, Нарада адзначае, што ня гледзячы на значны рост калектывізацыі сельскай гаспадаркі па ўсёй БССР і амаль поўнае скончэньне калектывізацыі паасобных раёнаў,—наркаматы і цэнтральныя ўстановы БССР дагэтуль не распрацавалі шэрагу неабходных мерапрыемстваў па прыстасаваньні раённага і сельскага апарату да ўмоў абслугоўваньня пашыранага сацыялістычнага сэктару.

5. Адзначаючы, што апошняе раёнаваньне БССР і узбуйненьне раёнаў, рост сацыялістычнага сэктару вёскі, абвастрэньне клясавай барацьбы па ўсім фронце сацыялістычнага будаўніцтва,—значна ўзьнімае і ўскладняе работу нізавога савецкага апарату, які патрабуе зараз асабліва чоткага, дыфэрэнцыраванага, своечасовага і палітычна-правільнага кіраўніцтва з боку цэнтральных устаноў,—Нарада пастанаўляе:

6. Усім наркаматам і цэнтральным установам неадкладна перабудаваць ўсю сваю работу ў нампрамку найлепшага кіраўніцтва раёнамі, выканаўшы маючыяся па гэтым пытаньні дырэктывы партыі і ураду, у прыватнасьці, у 2-хдэкадны тэрмін цалкам ажыцьцявіць тыя канкрэтныя паказаньні аб палепшаньні сыстэмы кіраўніцтва, якія былі дадзены ў пастанове Калегіі НКРСІ БССР за 24|III-1931 г.

Асабліва Нарада лічыць неабходным падцьвердзіць неабходнасьць тэрмінавага правядзеньня ў жыцьцё наступных мерапрыемстваў, вызначаных у паказанай вышэй пастанове:

а) устанаўленьне дыфэрэнцыраванага кіраўніцтва раёнамі, у залежнасьці ад іх эканамічных асаблівасьцяй, замацаваньне пэўнага тыпу раёнаў (выходзячы з адзнак па данай галіне народнай гаспадаркі) за паасобнымі інструктарамі, якія павінны несьці пэрсанальную адказнасьць за своечасовасьць, дабраякасьнасьць інструктажу і аказаньне дапамогі гэтым раёнам ў адносінах да усяго апараату,

б) распрацоўка Дзяржплянам эканамічнага даведчыка-паказчыка па раёнах, а раёнамі—такога-ж даведчыка па паасобных сельсаветах;

в) стварэньне спэцыяльных арг.-інструктарскіх частак па ўсіх цэнтральных наркаматах і ўстановах, дзе павінна быць сканцэнтравана ўся работа па кіраўніцтву (інструктаж, жывая сувязь, абмен вопытам і г. д.);

г) складаньне ўнутрыведамственных зводных плянаў выезду на месцы, увязваючы тут усе выезды па падпарадкаваных данаму наркамату гаспадарчых установах. Шырока практыкаваць мэтад комплексных абсьледваньняў па ўсіх галінах дзейнасьці данага ведамства, а таксама абсьледваньні паміжведамственныя;

д) усялякага роду гаспадарчыя, фінансавыя, нарыхтоўчыя і інш. заданьні павінны давацца раёнам адзін раз у выглядзе зводнага ведамственнага пляну, ахапляючага ўсе галіны дзейнасьці. Забараніць паасобным установам і цэнтрам даваць тыя ці іншыя гаспадарчыя заданьні раёнам без зацьверджаньня іх кіруючым наркаматам.

7. У дадатак да паказаньняў, маючыхся ў пастанове Калегіі НКРСІ БССР за 24|III-1931 г., Нарада лічыць неабходным правядзеньне ў жыцьцё наступных мерапрыемстваў:

а) шырока практыкаваць арганізацыю буксіра передавых раёнаў адстаючым, як апрадаўшы сябе сацыялістычны мэтад грамадзкай дапамогі. Таксама цэнтральныя ўстановы павінны арганізоўваць і дапамагаць разгортваньню сацспаборніцтва і ўдарніцтва як паміж паасобнымі раёнамі, так і унутры раённых устаноў;

б) цэнтральныя ўстановы павінны, на падставе аперацыйных даных, актаў абсьледваньняў іншых матарыялаў, складаць квартальныя агляды работы раёных органаў, з паказаньнем найбольш важных і характэрных дадатных і адмоўных момантаў, копіі якіх пасылаць у адпаведныя раёны;

в) раіць цэнтральным установам практыкаваць прыцягненьне да абследваньня аднаго раёну працаўнікоў суседняга раёну, а таксама лічыць неабходным практыкаваць прыцягненьне раённых працаўнікоў да абсьледваньня цэнтральных устаноў (па данай галіне);

г) лічыць мэтазгодным выданьне паасобнымі ведамствамі бюлятэняў, ахапляючых усе галіны дзейнасьці данага наркамату (па НКСнабу—Белрыба, Белмяса, Белплодагародніна і г. д.), прычым тэхніка выданьня бюлятэняў павінна быць пастаўлена так, каб ад гэтага не пагоршылася своечасовасьць пасылкі інструкцыйных матарыялаў;

д) шырока практыкаваць радыё для сувязі з раёнамі. Устанавіць пэўныя гадзіны перадачы важнейшых і найбольш тэрміновых распараджэньняў і паведамленьняў па радыё ўсім раёнам;

е) цэнтральным установам і наркаматам падабраць і разаслаць па раёнах папулярныя бібліятэчкі па данай галіне народнай гаспадаркі, папаўняючы іх сыстэматычна ў далейшым;

ж) Арг. Аддзелу ЦВК БССР і НКРСІ БССР праверыць ход падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі раённых працаўнікоў з боку цэнтральных устаноў, якое зьяўляецца дагэтуль зусім недастатковым. У прыватнасьці, лічыць неабходным арганізацыю пры Арг. Аддзеле ЦВК завочных курсаў па падвышэньньні кваліфікацыі раённых працаўнікоў;

з) спыніць, як зусім непатрэбную і па сутнасьці бюракратычную, практыку патрабаваньня пацьверджаньня атрыманьня тэй ці іншай адносіны;

і) спыніць маючуюся на сёньняшні дзень практыку абавязковага зацьверджаньня цэнтральнымі ўстановамі пэўных катэгорый раённых працаўнікоў (бухгальтароў па лініі ашчадкасы, інспэктароў па лініі НКФ і г. д.). Устанавіць такі парадак, што цэнтральнымі ўстановамі зацьвярджаюцца толькі загадчыкі раённых устаноў, а астатнія работнікі прызначаюцца пад адказнасьць апошніх;

к) пасылку ўпаўнаважаных у раёны ад цэнтральных устаноў лічыць неабходным праводзіць толькі ў тыя раёны, у якіх маецца пэўны прарыў і якім неабходна аказаць дапамогу ў яго зьліквідаваньні. Выяжджаючыя упаўнаважаныя павінны быць добра знаёмы з апера-

цыйнай дзейнасьцю данай установы і роля іх ні ў якім разе не павінна быць зьведзена да агульнага камандаваньня, а наадварот—яны павінны самі паступіць у распараджэньне раённых арганізацый і практычна дапамагаць у зьліквідаваньні маючыхся прарываў, аж да іх зьнішчэньня;

л) для выращэньня ўсіх агульна-арганізацыйных пытаньняў па кіраваньні раёнамі, лічыць неабходным, каб у кожнай цэнтральнай установе быў бы стала вылучаны адзін з кіруючых працаўнікоў для гэтага (ці сам кіраўнік, ці адзін з яго намесьнікаў);

м) цэнтральныя ўстановы і наркаматы павінны ў дэкадны тэрмін распрацаваць неабходныя мерапрыемствы па раённаму апарату, выцякаючыя з 6-ці ўмоў т. Сталіна, у прыватнасьці, даць неабходныя паказаньні аб парадку пераводу раённага апарату на зьдзельшчыну там, дзе гэта зараз магчыма і неабходна (паводле паказаньняў НКПрацы);

н) у самых цэнтральных установах лічыць неабходным шырока практыкаваць заахвочваюча-прэміяльную сыстэму ў адносінах інструктарскага апарату, прэміруючы адных за сваечасовы і поўны інструктаж раёну, аказаньне ім дапамогі, сыгналізацыю аб прарывах і г. д. і прыцягваючы да адказнасьці другіх, нявыконваючых ускладзеныя на іх абавязкі;

о) у мэтах палепшаньня і ўдасканаленьня інструктажу раёнаў, цэнтральныя ўстановы павінны ў месячны тэрмін распрацаваць палажэньне аб правох і адказнасьці інструктароў у адносінах да прымацаваных да іх раёнаў у напрамку ўстанаўленьня пэрсанальнай адказнасьці інструктара за дабраякаснасьць, сваечасовасьць інструктажу і жывой сувязі з даным раёнам, правільнасьць пісьмовай сувязі, за сваечасовае сыгналізаваньне аб усякіх прарывах і недахопах раённага зьвяна. Правы інструктароў павінны быць таксама падвышаны ў бок самастойнага выращэньня на месцы пэўнай катэгорыі пытаньняў;

п) прасіць НКПрацы ў месячны тэрмін распрацаваць пытаньне аб мэтазгоднасьці ўстанаўленьня парадку аплаты інструктароў, як раз'ездных працаўнікоў (аклад і фактычныя выдаткі па раз'ездах без атрыманьня сутачных);

р) лічыць мэтазгодным правядзеньне пры Арг. Аддзеле ЦВК адзін раз у квартал агульных нарад усіх інструктароў цэнтральных наркаматаў і ўстаноў з мэтай абгаварэньня агульных пытаньняў, установак і маючайся практыкі правільнага інструктаваньня.

8. Адзначаючы, што дагэтуль зусім недастаткова выконваецца пастанова Калегіі НКРСІ за 20|III-1931 г. аб скарачэньні залішняй тэлеграфнай перапіскі, нарада падцьвярджаючы ўсю карыснасьць і неабходнасьць выкананьня гэтай пастановы, адначасова лічыць неабходным устанавіць наступнае:

а) усе тэлеграмы, што пасылаюцца цэнтральнымі ўстановамі з колькасьцю слоў звыш 50, павінны прымацца толькі за подпісам кіраўніка ўстановы;

б) забараніць, як правіла, цэнтральным установам пасылаць тэлеграмы ў тыя раёны, якія разьмешчаны каля чыгункі і ў якія сьпеш-

ная пошта ідзе ня больш аднаго—двух дзён. Сьпіс гэтай катэгоры раёнаў устанавіць НК РСІ.

9. У мэтах далейшай сыстэматычнай барацьбы з ўсялякімі фактамі няправільнага бюракратычнага кіраваньня раёнамі Нарада абавязвае ўсе раённыя ўстановы ўсялякія факты і матарыялы, якія сьведчаць аб недабраякаснасьці і блытаніне ў справе кіраўніцтва раёнамі з боку цэнтральных установ, пасылаць у НКРСІ для прыняцьця адпаведных мер.

10. Нарада просіць НКРСІ у далейшым прыняць больш жорсткія меры па прыцягненьню да адказнасьці асоб, вінаватых у няўважлівых і бюракратычных адносінах да кіраўніцтва раёнамі. У прыватнасьці, Нарада лічыць неабходным прыняць меры пакараньня ў адносінах шэрагу фактаў, выяўленых у час апошняга абсьледваньня па цэнтральных установах.

11. Нарада зьвяртае ўвагу ўсіх наркаматаў і цэнтральных установ на асаблівую неабходнасьць палепшаньня кіраўніцтва прымежнымі раёнамі. Наркаматы і цэнтральныя ўстановы павінны ў двухдэкадны тэрмін распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па палепшаньні кіраўніцтва, спэцыяльна прыстасаванага да ўмоў прымежных раёнаў.

12. Адзначаючы, што пытаньне становішча кіраўніцтва раёнамі і наогул работа раённага апарату недастаткова асьвятляецца ў цэнтральным друку, Нарада зварочваецца да рэдакцый усіх газэт з просьбай у далейшым сыстэматычна асьвятляць становішча гэтай работы, паказваючы лепшыя і горшыя прыклады, мабілізаваўшы ўвагу рабселькораў на барацьбу за палепшаньне нізавога апарату.

13. Нарада адзначае, што адсутнасьць яшчэ дагэтуль тэлефоннай сувязі па некаторай частцы раёнаў зьяўляецца аднэй з перашкод наладжаньня правільнага арганізацыйнага кіраўніцтва з боку цэнтральных установ. Нарада лічыць неабходным, каб у 1932 г. быў дасягнут поўны ахоп тэлефанізацыяй усіх раёнаў БССР, а таксама значна пашырана сець тэлефонаў па сельскіх саветах.

14. Нарада адзначае нездавальняючае становішча кіраўніцтва сельскімі саветамі з боку раённых установ. Нарада лічыць, што далейшае палепшаньне гэтага кіраўніцтва ў асноўным павінна пайсьці па такому-ж шляху, які вызначан данай пастановай у адносіне кіраўніцтва цэнтральных установ (дыфэрэнцыраванае кіраўніцтва с/с розных тыпаў, практыкаваньне комплексных абсьледваньняў, пасылка адзіных плянаў, ажыцьцяўленьне сыстэматычнага інструктажу, а ня толькі выезд па кампаніях і г. д.).

Адначасова Нарада абавязвае ўсе наркаматы і цэнтральныя ўстановы ў 2-хдэкадны тэрмін распрацаваць і пераслаць раёнам канкрэтныя паказаньні, якім чынам (формы, мэтады) павінна быць пабудавана кіраўніцтва с/с па данай галіне раённай гаспадаркі.

15. Нарада адзначае, як значны недахоп, сыстэматычнае спазьненьне з прысылкай пратаколаў урадавых органаў, як ЦВК, СНК, і ЭКАСА. Нарада абавязвае кіраўніцтва спраў ЦВК, СНК і ЭКАСА забясьпечыць сваечасовую прысылку пратаколаў, для чаго, пры не

магчымасьці паскорыць іх друкаваньне ў друкарні, рассылаць іх раёнам пасьля размнажэньня на ратататары.

16. Нарада адзначае, што з боку многіх РВК і інш. раённых устаноў (часта пад сьцягам барацьбы з залішнім папяровым кіраўніцтвам цэнтральных устаноў) маюць месца выпадкі несваечасовай дачы адказу на тэрміновыя запытаньні цэнтральных устаноў і нават на тэлеграмы, адзначае спазьненьне з прысылкай неабходных ведаў, зводак і г. д., што часта ставіць пад пагрозу зрыву паасобныя мерапрыемствы, правадзімыя цэнтральнымі ўстановамі.

Нарада лічыць неабходным павесьці у гэтым напрамку рашучую барацьбу і абавязвае ўсе наркаматы і цэнтральныя ўстановы аб усіх такіх фактах паведамляць ЦВК для прыняцьця мер узьдзейнічаньня ў адносіне паасобных РВК і прыцягненьня вінаватых асоб да адказнасьці.

---

**10. Аб становішчы ведамственнай рацыяналізацыі ў савецкім апараце і мерах да яе ўзмацненьня.**

На падставе матарыялаў праверкі канстатаваць, што адсутнасьць сыстэматычнай рацыяналізатарскай работы ў большасьці савецкіх устаноў сьведчыць аб тым, што рацыяналізацыя свайго апарату яшчэ не зрабілася „абавязковай і сталай функцыяй кожнае ўстановы“ (XVI партканфэрэнцыя).

Асноўнымі недахопамі ў гэтай рабоце зьяўляюцца наступныя моманты:

а) з боку кіраўнікоў устаноў і грамадзкіх арганізацый (партячэек, мясцкомаў, комсамолу) не ўдзяляецца належнай увагі на разгортваньне і ўзмацненьне рацыяналізатарскай работы;

б) у шэрагу ўстаноў (ВСНГ, НКСнаб, НКФін, Дзяржбанк, Менгарсавет і інш.) не ўкамплектаваны штатныя пасады рацыяналізатараў;

в) няма ўвучоту паступаючых рацыяналізатарскіх прапаноў, іх рэалізацыі і эфэктыўнасьці праведзеных рац. мерапрыемстваў;

г) у большасьці ўстаноў практычная работа рацыяналізатараў і вытворчых сэктароў мясцкомаў групуецца, галоўным чынам, на пытаньнях вузкай і дробнай канцыляршчыны;

д) рабочыя шэфствуючых прадпрыемстваў, за выключэньнем нямногіх устаноў (НКЮ, НКФ), зусім ня ўцягваюцца ні ў праверку выкананьня дырэктыў па рацыяналізацыі, ні ў практычную рац. работу;

е) зусім слабае кіраўніцтва з боку цэнтральных устаноў і наркаматаў рацыяналізатарскай работай па сваёй пэрыфэрыі (НКЮ, НКзем, ВСНГ, Дзяржбанк і інш.).

Кіраўнікі і грамадзкія арганізацыі шэрагу ўстаноў да гэтага часу не зразумелі, што „барскі-прэнебражыцельным адносінам да работы па палепшаньні апарату кіраўніцтва і дробна-буржуазнай недаацэнцы адносна ролі дзяржапарату“ (Молатаў), як сапраўднаму праяўленьню правага апартунізму на практыцы,—павінен быць паложан канец.

На падставе адзначанага, Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б і Калегія НКРСІ БССР пастанаўляюць:

1. Абавязаць кіраўнікоў усіх устаноў:

а) забясьпечыць шырокае разгортваньне рац. работы як у цэнтральным апараце, так і па ўсёй сеці сваіх мясцовых органаў, увязваючы гэтую работу ўнутры ведамстваў у зводны плян кіруючай ведамственнай установы (Наркамснаб, Наркамзем і г. д.). Пляны рацыяналізатарскіх работ устаноў на 1932 г. у месячны тэрмін скласьці і ўзгадніць з органамі РСІ;

б) у месячны тэрмін укамплектаваць штатныя пасады рацыяналізатараў кіраўніцтва, вылучаючы на гэтую работу найбольш здольных работнікаў і лепшых актывістаў. Ва ўстановах, ня маючых штатных пасад рацыяналізатараў, работу па рацыяналізацыі ўскласьці на аднаго з супрацаўнікоў па сумяшчальнасьці.

2. Асноўная ўвага рацыяналізатарскай работы ва ўстановах павінна быць згрупавана на асноўных пытаньнях перабудовы, спрашчэньні і палепшаньні работы савецкага апарату, і ў першую чаргу на:

а) палепшаньні функцый і структуры апарату, разьмежаваньні функцый паміж часткамі апарату, ліквідацыі абязьлічкі і ўстанаўленьні правоў і абавязкаў кожнага працаўніка ў апараце з тым, каб „адказнасьць.... усіх супрацоўнікаў была зусім дакладна і ідывідуальна ўстаноўлена“ (Ленін);

б) на распрацоўцы канкрэтных мерапрыемстваў па ўцягненьні працоўных мас ў работу апарату і кантролю над яго дзейнасьцю, выяўленьні і перадачы функцый, падлягаючых выкананьню рабочымі, на аснове сац. намесьніцтва, мэтадах і формах работы сац. намесьнікаў;

в) на сыстэме і мэтадах кіраўніцава стаячымі ніжэй органамі, сувязі з імі;

г) на распрацоўцы і ўнядрэньні заахвочваючай сыстэмы аплаты працы, на ўнядрэньні і ўкараненьні гаспадарчага разьліку, на знаходжаньні такіх форм і мэтадаў работы апарату, якія максымальным чынам садзейнічалі-б разгортваньню сац. спаборніцтва і ўдарніцтва;

д) на пастаноўцы ў апараце кантролю за выкананьнем у напрамку прыцягненьня да яго шырокіх мас працоўных і грамадзкасьці самой установы, арганізацыі выкананьня і праверкі выкананьня па сутнасьці;

е) на распрацоўцы мэтадаў і форм складаньня плянаў і арганізацыі сыстэмы плянаваньня з тым, каб работа па складаньні плянаў была даступна і зразумела шырокім масам працоўных і каб яны мелі магчымасьць удзельнічаць у складаньні плянаў;

ж) на „прыстасаваньні дзяржапарату да найлепшага абслугоўваньня мас“ (XV Зьезд УсеКП(б);

з) на распрацоўцы мерапрыемстваў па рашучаму скарачэньню пасяджэньняў і на барацьбе з „заседательской суетнёй“ (непатрэбныя нарады, камісіі і інш.).

3. Канцэнтруючы сваю ўвагу на асноўных момантах рац. работы, рацыяналізатар і грамадзкасьць устаноў павінны таксама займацца

палепшаньнем тэхнікі работы з тым, каб рацыяналізацыя яе ляжала на непасрэдных тэхнічных выканаўцах і праводзілася імі ў абавязковым парадку па заданьнях рац. пляну і пры кансультацыі з боку рацыяналізатара.

4. Абавязаць кіраўнікоў усіх установаў:

а) арганізаваць сталы ўлік рац. прапаноў, кантроль за іх ажыцьцяўленьнем і ўлік эфэктыўнасьці (у рублёх) праведзеных рац. мерапрыемстваў;

б) вызначыць у каштарысах выдаткі на затраты па рацыяналізацыі апарату, на стварэньне прэміяльнага фонду і падрыхтоўку рацыяналізатарскіх кадраў;

в) аб выніках рац. работы, ажыцьцяўленьні рац. прапаноў і г. д. ня менш 2 разоў у год рабіць справаздачу як на сходах рабочых шэфствуючага прадпрыемства, так і на сходах служачых установы.

5. У мэтах унядрэньня лепшага вопыту ў работу апарату па сыстэме ведамстваў лічыць неабходным непасрэдна сіламі ведамстваў пачаць арганізацыю ўзорнага апарату, для чаго прапанаваць Дзяржбанку, Белкапсаюзу, ВСНГ, Наркамзему—па лініі сваёй сеці ў адной з установаў (аддзяленьне банку, ЦРК і г. д.) правесьці вопыт пастаноўкі арганізацыі ўзорнага апарату.

Вынікі пастаноўкі праз 6 мес. заслухаць на калегіі НКРСІ.

У мэтах увязкі работы рацыяналізатараў і наладжваньня сыстэматычнага абмену вопытам у галіне рацыяналізацыі ўстаноў, блізкіх паміж сабой па сутнасьці работ,—абавязаць ВСНГ, НКСнаб, НКФ, НКЗем і Белкапсаюз арганізаваць пры рэспубліканскіх цэнтрах (пры ВСНГ—для аб'яднаньняў, пры НКСнабе—для гандлёва-нарыхтоўчых ўстаноў, пры НКФ—для фінорганаў і банкаў, пры НКЗеме—для земорганаў і сель.-гасп. капярацыі, пры Белкапсаюзе—для аб'яднаньняў і ЦРК) куставыя аб'яднаньні рацыяналізатараў.

Групе савецкага апарату даць паказаньні аб парадку арганізацыі аб'яднаньняў.

7. У мэтах сыстэматычнага абмену вопытам па рацыяналізацыі кіраўніцтва, абавязаць Гар. і РайКК-РСІ пэрыядычна склікаць нарады работнікаў па рацыяналізацыі, працуючых у гарадзкіх і раённых установах.

8. Абавязаць кіраўнікоў устаноў на працягу дэкады прыняць меры да выкананьня данай пастановы шляхам канкрэтнага разьмеркаваньня паміж пэўнымі працаўнікамі паасобных пунктаў, з паказаньнем, што, каму і ў які тэрмін зрабіць.

9. Абавязаць парт'ячэйкі савецкіх устаноў узмацніць работу ў напрамку рацыяналізацыі і спрашчэньня апарату, абгаварваючы на ячэйцы становішча рац. работы ў апараце, найбольш буйныя рац. праекты, вынікі праведзеных рац. мерапрыемстваў і г. д.

10. Прасіць ЦСПСБ зьвярнуць увагу на слабую работу нізавых прафарганізацый на мабілізацыю грамадзкай думкі па разгортваньні і ўзмацненьні ведамственнай рацыяналізацыі і на слабую работу саміх профорганаў у справе спрашчэньня і палепшаньня работы савецкага апарату.

11. У мэтах падвышэньня тэарэтычнага ўзроўню рацыяналізатараў, працуючых ва ўстановах, абавязаць Інстытут савецкага будаўніцтва і права распрацаваць пытаньні і арганізаваць пры Інстытуце вячэрнія рац. курсы. Фінансаваньне курсаў ускласьці на ўстановы, якія камандыруюць работнікаў для перападрыхтоўкі.

12. Прыняць да ведама, што кіраўнікі навучальных устаноў, пералічаных у дадзеным да гэтае пастановы сьпісе, абавязаліся, у мэтах унядрэньня рацыяналізатарскіх ведаў сярод рыхтуемых работнікаў савецкага апарату, прадугледжваць у праграмах і забясьпечваць выкладаньне дысцыплін па рацыяналізацыі у падпарадкаваных ім навучальных установах.

Мэтадалёгічнае і мэтадычнае кіраваньне выкладаньнем дысцыплін па рэалізацыі справы кіраўніцтва, увязка навучальнай работы і падбор навуковых работнікаў ускладаюцца на Катэдру рацыяналізацыі Інстытуту Савецкага будаўніцтва і права пры Прэзыдыуме ЦВК БССР.

13. Групе савецкага апарату сумесна з Інстытутам Асьпірантуры БАН прапрацаваць пытаньне аб падрыхтоўцы пры Інстытуце навуковых кадраў па выкладаньні рацыяналізацыі кіраўніцтва ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах.

14. Гэтую пастанову апублікаваць у друку.

15. Тав. Няфедаву да І|ІІ-1931 г. дабіцца ад устаноў канкрэтнай рэалізацыі данай пастановы паводле п. 8.

Старшыня ЦКК КП(б)Б
і Нарком РСІ БССР **Калнін.**

15 студзеня 1932 г.
№ 648.

**Дадатак.**

## С Ь П І С

вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, кіраўнікі якіх абавязваюцца прадугледжваць у праграмах і забясьпечыць выкладаньне дысцыплін па рацыяналізацыі кіраўніцтва:

1. Камуністычны Унівэрсытэт (Савецкае аддзяленьне).
2. Інстытут савецкага будаўніцтва і права.
3. Плянава-эканамічны Інстытут.
4. Плянава-статыстычны Тэхнікум.
5. Фінансава-эканамічны Інстытут.
6. Вышэйшыя фінансава-эканамічныя 2-гадовыя курсы.
7. Фінансава-эканамічны Тэхнікум.
8. Беларускі Інстытут савецкай капярацыі.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР.

### 11. Пра штаты гарадзкіх саветаў на 1932 г.

У зьмену пастановы НК РСІ за 29/X-31 г. утварыць пры гарадзкіх саветах і РВК аддзелы па камунальнай гаспадарцы ў наступным парадку, колькасьці і структуры:

1. Па Менскаму Гарсавету—пакінуць 21 адзінку, зацьверджаныя раней, на 1932 год.

2. Па Гомельскаму і Віцебскаму гарсаветах:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Заг. Аддзелу | 1 |
| 2. | Ст. эканаміст | 1 |
| 3. | Статыстык | 1 |
| 4. | Інвэнтарызатар | 1 |
| 5. | Бухгальтар | 1 |
| 6. | Рахункавод | 1 |
| 7. | Гарадзкі інжынэр | 1 |
| 8. | Інспэктар па шлях. і трансп. | 1 |
| 9. | Спэц. па зялён. гаспад. | 1 |
| 10. | Інспэктар па снабжэньні | 1 |
| 11. | Інспэкт. па пажар. гаспад | 1 |
| 12. | Інспэктар. па жыл. і няжыл. | 1 |
| | фонду | 1 |
| 13. | Агэнт па жыльлёв. справах | 1 |
| 14. | Каморнік | 1 |
| 15. | Сакратар | 1 |
| 16. | Справавод | 1 |
| 17. | Юрысконсульт | 1 |
| 18. | Машыністка | 1 |
| | Усяго па | 18 адз. |

3. Па Бабруйску і Магілеву:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Загадчык аддзелу | 1 |
| 2. | Эканаміст | 1 |
| 3. | Інвэнтарызатар | 1 |
| 4. | Бухгальтар | 1 |
| 5. | Гарадзкі інжынэр | 1 |
| 6. | Садавод | 1 |
| 7. | Агэнт па снабжэньні | 1 |
| 8. | Інспэктар па жыл. гасп. | 1 |
| 9. | Каморнік | 1 |
| 10. | Сакратар | 1 |
| 11. | Справавод-статыстык | 1 |
| 12. | Машыністка | 1 |
| | Усяго па | 12 адз. |

**4. Па Барысаву, Оршы, Полацку, Рэчыцы:**

| | |
|---|---|
| 1. Заг. аддз., ён-жа па пытаньнях жылфонду | 1 |
| 2. Эканаміст | 1 |
| 3. Рахункавод-статыстык | 1 |
| 4. Інвэнтарызатар | 1 |
| 5. Гарадзкі інжынэр | 1 |
| 6. Справавод-машыністка | 1 |
| Усяго па . . . | 6 адз. |

5. Па Мазырскаму, Веткаўскаму, Горацкаму, Слуцкаму, Быхаўскаму, Чэрвенскаму, Жлобінскаму, Петрыкаўскаму, Гарадоцкаму, Сенненскаму, Шклоўскаму, Клімавіцкаму, Чаускаму, Дубровенскаму, Мсьціслаўскаму, Лепельскаму і Рагачоўскаму РВК:

| | |
|---|---|
| 1. Загадчык аддзелу | 1 |
| 2. Эканаміст | 1 |
| 3. Пажарн. інструктар | 1 |
| Усяго па . . . | 3 адз. |

6. Па ўсіх астатніх Райвыканкомах:

| | |
|---|---|
| 1. Загадчык аддз. | 1 |
| 2. Пажарн. інструктар | 1 |
| Усяго па . . . | 2 адз. |

Нарком РСІ БССР **Калнін.**

15 студзеня 1932 г.

### 12. Тлумачэньне адносна штатаў РВК на 1932 г.

НКРСІ БССР паведамляе, што штаты вайсковых і асобных частак РВК на 1932 г. пакінуты ў межах штатаў 1932 г. і НКФ гэтыя штаты ўводзіць у бюджэт 1932 г.

Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР **Жолудаў.**

16 студзеня 1932 г

## Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### 13. Статут Беларускага Рэспубліканскага Плодагароднага Калгаснага Саюзу—„Белплодагародкалгассаюз“.

#### I. Агульныя палажэньні.

1. Для будаўніцтва плодагародных, бульбяных і ягадных таварных калгасных фэрм на тэрыторыі Беларускай ССР і арганізацыйна-вытворчага і аперацыйна-гаспадарчага кіраўніцтва арганізуецца Беларускі Рэспубліканскі Плодагародны Калгасны Саюз—„**Белплодагародкалгассаюз**“.

2, Для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. 1 гэтага статуту, Беларускі Плодагародны Калгасны Саюз:

а) распрацоўвае арганізацыйна-вытворчыя і фінансавыя пляны па рэспубліцы і па ўзгадненьні іх з Наркамземам БССР прадстаўляе на зацьверджаньне Плодагародкалгасцэнтра СССР і кіруе іх выкананьнем, распрацоўвае формы вытворчага пляну таварных фэрм, кіруе складаньнем плянаў і зацьвярджае іх;

б) складае крэдытныя пляны па ўсёй сыстэме таварных фэрм-разьмяркоўвае адпушчаныя крэдыты, рэгулюе іх скарыстаньне і пра, водзіць мерапрыемствы па мабілазацыі ўласных сродкаў калгасаў і калгасьнікаў;

в) праводзіць спэцыялізацыю фэрм, распрацоўвае спэцыяльныя севазвароты з найбольш рацыянальнымі суадносінамі культур, арганізуе сетку пітомнікаў, а таксама арганізуе ў фэрмах цяплічна-парніковую гаспадарку;

г) арганізуе снабжэньне фэрм і пераапрацоўваючых прадпрыемстваў сродкамі вытворчасьці, абсталяваньнем, інвэнтаром, будматарыяламі, транспартнымі сродкамі, арганізуе загатоўку і скарыстаньне мясцовых будаўнічых матарыялаў;

д) арганізуе агра-тэхнічнае абслугоўваньне фэрм, скарыстоўвае дасягненьні навукова-дасьледчых і вопытных устаноў для палепшаньня калгаснай буйнай плодагароднай гаспадаркі, ажыцьцяўляе вытворчае кіраўніцтва фэрмамі;

е) кіруе капітальным будаўніцтвам, мэханізацыяй і электрыфікацыяй фэрм;

ж) забясьпечвае фэрмы і сыстэму кадрамі кваліфікаваных працаўнікоў, падрыхтоўваемых ім з калгасьнікаў, мэтадам арганізацыі спэцыяльных навучальных устаноў, курсаў, шляхам правядзеньня масавых мерапрыемстваў па ўздыму агра-тэхнічнай пісьменнасьці калгасьнікаў, вядзе вучот і разьмеркаваньне кваліфікаваных кадраў сыстэмы;

з) арганізуе збыт таварнай прадукцыі і адыходаў таварных фэрм, будуе і скарыстоўвае прадпрыемствы па сартаваньні і першапачатковай перапрацоўцы таварнай прадукцыі, арганізуе хавальнікі для прадукцыі, адчыняе магазыны і ларкі для рэалізацыі таварнай прадукцыі і адыходаў на падставе дзейнічаючых распараджэньняў.

3. Узаемаадносіны Беларускага Плодагароднага Калгаснага Саюзу і калгасаў, арганізуючых таварныя фэрмы, вызначаюцца дагаварамі аб арганізацыі і вытворчай дзейнасьці таварных фэрм.

4. Пляны працы Беларускага Плодагароднага Калгаснага Саюзу ўключаюцца ў агульны плян працы Плодагародкалгасцэнтру СССР.

5. Беларускі Плодагародны Калгасны Саюз вядзе сваю працу на началах гаспадарчага разьліку, карыстаецца ўсімі правамі юрыдычнай асобы і можа ўтвараць неабходныя для яго працы маемасныя зьдзелкі, заключаць дагаворы, атрымоўваць крэдыты, выдаваць абавязацельствы і інш.

### II. Сродкі Белплодагародкалгассаюзу.

6. Сродкі Беларускага Плодагароднага Калгаснага Саюзу— складаюцца:

а) з паступленьняў па правадзімых Плодагародным Калгасным Саюзам гаспадарчых апярацыях, ў тым ліку аперацыйных нацэнак, адлічэньняў і прыбыткаў,

б) з мэтавых уносаў калгасаў арганізуемых фэрм,

в) з сродкаў, вылучаемых з бюджэтных асыгнаваньняў, так і спэцыяльных крэдытаў.

Каштарысы прыбыткаў і выдаткаў Белплодагародкалгассаюзу складаюцца на падставе тыповых норм і разьмераў адлічэньняў ад аперацыйных нацэнак і прыбыткаў, устаноўленых Плодагародкалгасцэнтрам СССР.

Фінансавы плян Плодагародкалгассаюзу і разьмеркаваньне яго сродкаў на асноўныя і зваротныя зацьвярджаюцца Плодагародкалгасцэнтрам СССР.

### III. Кіраўніцтва Плодагародкалгассаюзу.

7. На чале Плодагародкалгассаюзу стаіць Праўленьне з 3-х асоб, у тым ліку Старшыня і яго Намесьнік; склад праўленьня вызначаецца Калгасцэнтрам БССР і зацьвярджаецца Наркамземам БССР.

Праўленьне Плодагародкалгассаюзу знаходзіцца ў гор. Менску.

8. Праўленьне на падставе гэтага статуту і ў межах дзейнічаючых законаў, пад агульным кіраўніцтвам Плодагародкалгасцэнтра СССР і Наркамзема БССР, вядзе аперацыйную і адміністрацыйную працу Плодагародкалгассаюза, кіруючы яго справамі і знаходзячайся ў яго распараджэньні маемасьцю, вытвараючы ўсе зьдзелкі і апярацыі, уваходзячыя ў кола дзейнасьці Плодагароднага Калгаснага Саюзу, а таксама прадстаўляе інтарэсы сыстэмы перад урадавымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі БССР.

9. Дагавары, зьдзелкі, даверанасьці і фінансавыя распараджэньні Праўленьня банкаўскім установам павінны быць падпісаны Старшынёю ці яго Намесьнікам, альбо адным членам Праўленьня ці асобаю, упаўнаважанаю на гэта асобнаю пастановаю альбо даручэньнем Праўленьня.

### IV. Кіраўніцтва раённымі арганізацыямі Плодагародкалгассаюзу.

10. Для набліжэньня кіраўніцтва і абслугоўваньня таварных фэрм Плодагародкалгассаюз арганізуе у залежнасьці ад разьвіцьця сеткі фэрм, раённыя канторы Плодагародкалгассаюза, а ў раёнах з меншай колькасьцю фэрм—упаўнаважаных Плодагародкалгассаюза, якія дзейнічаюць на падставе асобных палажэньняў, зацьверджаных НКЗ БССР.

### V. Справаздачнасьць Плодагародкалгассаюзу і рэвізія яго дзейнасьці.

11. Не пазьней двох месяцаў пасьля сканчэньня справаздачнага году Праўленьне Плодагародкалгассаюзу прадстаўляе Плодагарод-

калгасцэнтру СССР і НКЗ БССР гадавую справаздачу, балянс і праект разьмеркаваньня прыбыткаў альбо пакрыцьця страт.

12. Рэвізія дзейнасьці Плодагародкалгассаюзу вытвараецца Плодагародкалгасцэнтрам СССР і Наркамземам БССР.

**VI. Зьмены статуту Плодагародкалгассаюзу.**

13. Зьмены гэтага Статуту робяцца па пастанове НКЗ БССР.

14. Гэты Статут мае сілу з моманту зацьверджаньня яго Наркамземам БССР.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Масюкоў.**

22 лютага 1932 г.



**Адказны Рэдактар І. Фрыдман.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Галоўліт № 412. зак. 302. Тыраж 5800